1557); городни его мостовые на Ясолде и на яз ту добре зароблены, гдежъ дей онъ отъ тыхъ зарobленыхъ городенъ своихъ ... дьяку посокирное давалъ (Пін., 135, 1562); оказывали панове Гацевичи свое гати два новые, хворостомъ заробленые такърочнымъ (АВК, XVIII, 394, 1653).

**2.** *Ад* заробити *ў* 6 *знач.* робота наша замковая зароблена есть, нехай панъ Иванъ городничий вжо едетъ ... и роботъ нашихъ огледаетъ (Пін., 145, 1563); роботъ своихъ замковыхъ, паркану, рову и острогу, зарobленыхъ на филиповы запусты ... мнѣ не оказали (Там жа).

**Зарobленье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* заробити *ў* 5 *знач.* на зарobленье пашни, на кождую волоку, абы было оставлено по семи волокъ осѣлыхъ подданыхъ нашихъ, зъ волы и зъ клячами (АЗР, III, 78, 1557); маеть быти на кожъдую волоку фолваркову [ю] зоставълено по семи волокъ оселыхъ, з волы и съ клячами, на зарobленье пашни (КПД, 588, 1557).

**Зарobливаный** *дзеепрым. Адрамантаваны, папраўлены.* впередъ хочетъ его милость найти тому обычай, кимъ бы таковые пустые городни зарobливаны были (АЗР, III, 105, 1559); таковые пустые городни зарobливаны были (КПД, 290, 1559).

**Зарobливати** *дзеясл. Атрымліваць грашовую ці якую іншую плату за працу.* татарове ... кожи дубꙗт и ꙗкими колвекъ ремеслы живност собе зарobливают (Ст. 1566 I, 91б); которые татарове ... кожы дȣбꙗть и ꙗкими колвекъ ремесли жывность собе зарobливають (Ст. 1588, 493).

**Зароблянье** *наз. Закладванне, замазванне.* Реестръ зароблянья окна у звоницы, за розказанемъ пановъ маистратовыхъ наняли двухъ муляровъ окно замуровать у звоницы брацкой (ИЮМ, XI, 126, 1697).

**Заробляти, зарабляти** *дзеясл.* **1.** *Атрымліваць грашовую ці якую іншую плату за працу.* працою рукъ своих престаꙗ дева и иѡсифъ жывност собе зароблꙗли (Зб. 255, 142б—143); братіꙗ ѲеѡдорȢ давшы верблюды выправили до мѣста абы сꙗ там ними под фȣрȣ на$^{s}$мȣючысе зароблꙗл им хлѣба (Зб. 752, 13б); Римлꙗне маютъ доходы великіи, а Рȣсь мȣситъ сама себѣ хлѣба зараблѧти (Зб. вып., 56б).

**2.** *Будаваць, рабіць, майстраваць.* мосты имъ повинные заробляти (АЗР, III, 73, 1557); кгды есмо у восень езъ зарабляли на реце Припети, теды въ тотъ часъ панъ Коръниель калавуръ мимо насъ ехалъ (АВК, XVIII, 363, 1648); двумъ поденщикомъ на Ветреной улицы брамку Лядвееву зарабляли, дали имъ за день золотый (ИЮМ, II, 201, 1684).

**3.** *Заслугоўваць; дзейнасцю, паводзінамі выклікаць пэўныя адносіны да сябе.* звычай который естъ выкладачемъ правъ свѣдчитъ, же не боронитъ каран$^{s}$ѧ дх҃овного над тыми котѡрыи на тое зароблѧютъ (Апакр., 77б); коли бы ведали, ꙗко тꙗжко г҃да бога ѡбражают, и на ꙗкие каранꙗ зароблꙗют (Зб. 255, 288б); мовил староста на великіꙗ мȣки зараблꙗеш на которые зараз тебѣ подам (Зб. 752, 244б).



**Зарobляючий** *дзеепрым. ад* заробляти *ў* 3 *знач.* сȣть бовѣм$^{s}$ нѣкоторій на грѣхъ и псотȣ оумыслне зароблѧючій, а иншіи знебачки впадаючій (Мак., 252).

**Заробокъ** *наз. Заработак.* за працȣ свою водле матереи часу и дорогости заробокъ слȣшны$^{s}$ мети могли (Ст. 1588, 108); Особа с которою хто грѣшыт, албо которой крывдȣ чынить: напрыклад хто бы оу збожоухного ꙗкого ремеслника, оукралъ заробокъ его дневный, грѣшытъ барзо, бо емȣ хлѣбъ ѡтнѧлъ на цалыи день (Навука, 61).

**Заробяти, зарабяти** *дзеясл.* **1.** *Атрымліваць грашовую ці якую іншую плату за працу.* працою рȣкъ своихъ насте$^{s}$шаꙗ панъна и иѡсифъ живъност собѣ зарабꙗли (Зб. 259, 447—447б).

**2.** *Папраўляць, заладжваць, заштукоўваць.* завжъды лацънеи было старосте городни зарабꙗть (КЛС, 160, 1597); барзо великȣю дирȣ вывалили, в мȣрȣ в которȣю теды през всю ноч ѡнȣю тȣрки з многих дѣл стрелꙗли а греком ѡнои дѣрѣ заробꙗт не допȣщали (Бельск., 387б).

**3.** *Заслугоўваць.* может нас побȣдит до горачости паметат на ꙗки$^{s}$ суд велики$^{s}$ зарабꙗет которы$^{s}$ сродков ѡт бг҃а даных зле ȣжывает (Зб. 261, 132); мниманого, и ѡт себе нерозсȣдне оулюбеного добра заживаючи, на оное правдивое и вѣч$^{s}$ное зло зарабѧютъ (Каліст, II, 134); кгды теды ст҃ый феѡдосие рицер правдивы$^{s}$ х҃въ: котори$^{s}$ во дни и въ ночи ѡт пелюхъ не мелъ своихъ х҃ви над ласкȣ зарабꙗлъ (Пралог, 650).

**Заровна** *прысл. Тое, што і* заровно. тотъ хрестиянски, справедливы а цнотливы панъ, не паметаючи на пожитокъ свой, южъ праве хотячи, абы была кождому заровна отворона справедливость (АВК, XXII, 148, 1555—1566); в тых людеи все заровна жона дитѧ сестра матка ꙗко скот мешкаютъ (Царств., 79).

**Заровниватися** *дзеясл. Прыраўнівацца, параўноўвацца.* посел ваш: ... до москвы посланы$^{s}$; ꙗк в$^{s}$ свѣтлых променꙗхъ воли бозско$^{s}$ з дарȣ его. ст҃го внȣтным ѡком вижȣ, заровниваетсꙗ в$^{s}$ ѡдправѣ зо мною послом бозским (Дыяр., 168б).

**Заровно, зоровно** *прысл. Роўна, аднолькава, пароўну.* тую дань протопопъ и протодіяконъ взяти маютъ съ крылошанами и за-ровно зъ священиками и съ дьяконами ... делиться повинни будутъ (АЗР, I, 80, 1468); мѣщане, которые имѣнья шляхетскіе держатъ, абы зъ вами заровно службу земскую служили (АЗР, III, 60, 1554); Се естъ наставники, мастери, пастыры, и врѧдники. Тым$^{s}$ бо должни есмо честь заровно ꙗко родителем$^{s}$ (Будны, 51); тотъ торгъ и продажу нашу обявити, призволяючы на таковую продажу постановене нашо и з нами, зоровно люди и земли таго именя ... маеть очыщати (АВК, XXXI, 25, 1568); мы гсдръ и пн҃ве рада нш҃а маем кождого стану всим заровно справедливост чинити (Ст. 1566, 39); которые земли подъ собою

5. Зак. 1031

не маютъ, тые заровно зъ земель зъ другими платити повинни (АВК, III, 273, 1577); мы гсдръ и панове рада наша, маемъ кождого стану всимъ заровно справедливость чинити без ѡтволоки (Ст. 1588, 114); окромъ того платовъ никоторыхъ и иншихъ пожитковъ заровно зъ мѣщаны полнити мають (АЮЗР, I, 252, 1594); ѡбадва заровно грешат (Зб. 261, 150); в вилкомири в девѧлтовѣ и на все литвѣ, межи невѧжею и вилею, в покою росказовал и вси три в споко нo згодѣ трваючи, заровно собѣ против р8си и нѣмцов, которие з листант, або инфлѧнт (Стрыйк., 517б); Бгъ ѧкъ естъ писано, справедливое слнце, всѣмъ заровно промени доброти своей свѣтитъ (Каліст, I, 172); Всѣмъ то мовлю, заровно сл8зѣ ѧкъ и Пан8 (Лям., 22); ѡба лотры, заровно м8к8 терпели (Зб. 255, 703); оу Гсда Бга вси есмы ровныи, и всѣхъ насъ, Оцъ нбсный, заровно любитъ (Зб. вып., 98б). *Парайн.* заравно, заровна.

**Зародити** *дзеясл. Урадзіць, даць багаты ўраджай.* члвкъ посѣѧвъ жито и пшеницю. молилсѧ. стаѧ земле зароди. а ба не помѧнеть (Чэцця, 128б); если не зародить Богъ пшеницы, но тоя осмъ бочокъ давати жытомъ (РПП, 348, 1507); самъ гсдь притчю оную о богатом повѣдѣлъ, который егда ему нива обѧите зародила, не длѧ оубогихъ заховал, але про свой збытокъ заховавши, мовилъ (Будны, 199).

**Зародитися** *дзеясл. Узнікнуць, паявіцца.* зародилосѧ въ жел8дкоу сырость. раньѧ сего и оумерлъ (Арыст., 226); млдниц8 ѡдному з тр8тизны выпитои, 8жи сѧ в черевѣ зародили, и сродзе его гризли (Зб. 81, 90).

**Зародокъ** *наз. Зародак.* члкъ зародокъ женскіи коротокъ дньми и сыт гнѣвом (Зб. 262, 17б).

**Зарожатися** *дзеясл. Зараджацца, узнікаць.* занеже засенье зарожаетсѧ в ниттии третем. а протожь злыи бываеть животъ (Арыст., 209); По прест8пленій, землѧ срдца выдаст терніе и ѡсетъ: пашетъ члвкъ, выроблѧетъ, а еднакъ предсѧ терніе д8хѡвъ превротных зарожают сѧ (Мак., 246).

**Зароженый, зарожоный** *дзеепрым. Тое, што і* зараженый *у* 1 *знач.* жебраки которыми люмбардіа тоусіа іасполіа и всѧ была зарожена черес ѡдволаніе и выкладаніе трех даров которе тыи три короли гсноу ѡферовали зосромочены были (Валх., 77); зарожона была землѧ кровю (Пс. XVI, 108—108б); повѣтрие моровое по всѣх панствах р8ских пановало. которым зарожоно кнжо киевское Всеволод сын ѧрославов (Стрыйк., 464).

**Зарока** *гл.* зарука

**Зарокъ** *наз. Зарок.* панъ и малжонка его милости ... право заочне зароком змышленым в неведомости его перевели (АВК, XXXII, 135, 1596).

**Зароненый** *дзеепрым. Заняпалы.* речъ есмо зароненую поновили (АЮЗР, II, 140, 1539).



**Заронити** *дзеясл.//перан. Абудзіць, узнавіць, узрушыць, прыпомніць што-н.* естли бы хто хотѣлъ тое узрушивати тымъ нашимъ родителемъ и намъ самимъ вѣчную паметь заронити, тотъ ся розсудить передъ милостивымъ Богомъ (АЮЗР, I, 56, 1516).

**Заросленый** *дзеепрым. Заросшы.* далемъ му ... покопцовъ три землями ижъ спульнымъ власнымъ з братомъ его Стасемъ поля голого заросленое (АВК, XXIV, 162, 1554).

**Зарослина** *наз. Тое, што і* зарость. начинаетсе пета першая тое границы: ... од того дуба и копъца черезъ зарослину до в осину з рубежами (ИЮМ, XXV, 341—342, 1719).

**Зарослый** *дзеепрым.* і *прым.* **1.** *дзеепрым. Заросшы, зарослы.* До тыхъ пустовщизнъ сѣножати тамъ же надъ рѣкою прозываемую Болота, зарослого лозою на хворостъ (АВК, XIV, 501, 1594); пры которой сеножати и мышник не велми зарослы (АВК, XXXII, 318, 1596); пустовщыну одну Почышку, усю лесомъ зарослую, у тогожъ Ходаковского выкупиломъ (АВК, XX, 1612, 231); Вышолъ Гдь не ижъ бы пог8билъ землю терньемъ зарosл8ю, анѣ роботникѡвъ м8чити (Каліст, II, 122б); ѡледенѣвшаѧ: Заглохлаѧ, зарослаѧ (Бяр., 197).

**2.** *прым. Які зарос чым-н.* врадникъ ... оказывалъ намъ грани зарослые старые въ ольхахъ и въ дубѣхъ (АСД, I, 52, 1546); свою стар8ю границ8 або стен8 зарослую гдебы потреба 8казовала пановити и поправити то будетъ волно 8чынити каждом8 на своемъ властномъ кгр8нте и по старыхъ знакохъ и границахъ (Ст. 1588, 365); граница стародавная, рубежи у деревью давные зарослые (АВК, XVIII, 160, 1598); иѡсифъ был ѧко вѧзен н8жны ѡдерты и зарослы (Біблія, 91); Др8гих теж звали древлѧнами, што тепер зовут полѣсе, иж межи лесами, в г8стых а зарослых п8щах мешкали (Стрыйк., 429б—430); здивилсѧ с8дѧ ижъ члкъ ѡшаръпаныи зарослыи и взгаръжоныи такъ сѧ на нег кинулъ смѣле (Зб. 81, 77); Дебрь: Падолъ зарослый (Бяр., 33); се 8казал в дверех хижъки ѡнои гл8хи ѡны паст8х з тварю страшливою, и з волосами розчохраными, и бородою зарослою (Зб. 82, 79).

**Зарось, заростль** *наз. Зарослі.* то есть на первъшомъ местцу нива и зарости (АВК, XXIV, 16, 1509); къ сеножатемъ не мают ни с чим ити толко с косою а з секерою, чим зарости ростеребливати, а с косою чимъ ему косити (Ст. 1529, 78); на деветнадцатомъ местцы зарось з одное стороны подле сеножати (АВК, XXIV, 149, 1553); в гаехъ, в заростляхъ, в поляхъ ... тые панове дельчие ... тотъ делъ умоцнили (АВК, XXI, 83, 1555); тотъ дворецъ ... з ... паросниками, кустовъемъ и заростлями ... продали есьмо (АВК, XXXVI, 49, 1582); четвертое село ... з пущами, лѣсами, барами, зарослями (ИЮМ, XXVIII, 181, 1614); Орачъ частокроть выходитъ не толко длѧ сѣѧнѧ на нив8, але и длѧ иншихъ ей потребъ, абы ей ѡтновилъ, абы к8коль и зелско непотребное з ней повыривалъ, жебы з терн ѧ

и з[s] зарослѣ ей вычистилъ (Каліст, II, 122б); нанялъ есми землю церковную ... зъ огороды и зъ гумнищемъ и зъ зарослями и съ сеножатьми (АВК, I, 66, 1633); люди ... двора моего Лебеньского ... перешедши черезъ границу, рѣчку Солодкую, въ сѣножати ... въ заросли, въ гай ... почели се кгвалтовне вступовати (АВК, XIII, 341, 1685). *Парайн.* зарослина.

**Заросникъ** *наз. Зараснік.* На девятомъ мѣсцы нива и зъ заросникомъ (АВК, XIV, 351, 1589); Король тую пашетъ, а другимъ концомъ до заросника Миколая (Там жа); заводить почали ... трибомъ черезъ заросникъ до поля старого (АВК, XVIII, 176, 1600).

**Заростати, зарастати** *дзеясл. Пакрывацца расліннасцю, валасамі і пад.* ѡледенѣваю: Зарост8ю хворостомъ (Бяр., 197); кгды 8же килка лѣтъ перемешкала, межы законники, а ничого не зарастала, ани голос8 мѣнила, роз8мѣли некоторые абы была рѣзанцом (Зб. 752, 544).

**Зарости, зарасти** *дзеясл.* 1. *Пакрыцца, парасці якой-н. расліннасцю, лесам.* естли бы старые сеножати заросли, то может их засѧ собе ростеребити (Ст. 1529-Ф, 122); роспашы штож дед и ѡтец ихъ и ѡни сами пахали ... вже лесомъ заросли (КВЗС, 57, 1538); Иншій весь кгрунтъ лѣсомъ зарослъ (РПП, 127, 1555); если бы старые сеножати заросъли, тотъ можеть ихъ засе собе ростеребити (Ст. 1588, 381); ѡпустил ѡтче нив8 8же третее лѣто, котораа терниемъ и волчками заросла (Зб. 82, 352).

2. *Зажыць, загаіцца, зарубцавацца (пра рану).* Немогшагосѧ не подѧсте, и болѧщого не врачевасте, и сокрушенаго не обѧзасте, и оуѧзвенаго не зарастисте, и прочаѧ (Будны, 70).

**Заростити** *дзеясл. Прывесці ў стан заняпаду.* тернъ лакомства вн8трнюю срдца его борозн8 заростил былъ и запсовал (Каліст, II, 69).

**Заростль** *гл.* заросль

**Заростъ** *наз. Зараснік.* дали есмо человѣка нашого тяглого у Даниловскомъ накошы ... зъ заростми (АСД, II, 12, 1537).

**Зарощеный, зарощоный** *дзеепрым. Заросшы.* винницю розмаитыми ѡссти и перьемъ и терниемъ розмаитыхъ блоудов и болванствъ ѡбвѧзованоую и зарощеноую посполоу ис стым фомою апслмъ вычистили и выправили да нове матице (Валх., 94); Хто бы кому у гаи зарощоном которую шкоду кгвалтом умыслне вчинилъ або рубал ... тогды мает ему кгвалту заплатити дванадцат рублев грошей (Ст. 1529, 83); привели насъ до пня огорѣлого, у которомъ ... мѣла быти вложена в пень мотыка и зарощена (АСД, I, 59, 1546); я продал ... гай мой властны, отчызны розного дерева на будоване и на жерди и на коле згодного зарощоны (АВК, XXXII, 167, 1596); наехали и нашли на лесъ и гай зарощоный ее милости пани маршалковое Сухлицкий (АВК, XVIII, 191, 1603).



**Зарубаный** *дзеепрым. ад* зарубати. Маеть онъ ихъ держати и вжывати по тые грани зарубаные (РПП, 281, 1545).

**Зарубанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* зарубати. одинадъцатый позов о зарубанье новыхъ рубежовъ и о накладенье новыхъ копцов (АВК, XXXVI, 7, 1582); осмыйнадцать позовъ ... о зарубанье дороги надъ ... Дражницою, и о покладенье якихес новых копцов с каменья (Там жа, 8).

**Зарубати** *дзеясл. Зазначаць, памячаць зарубкамі.* А того рубежа зарубати посылали есьмо ездоком Донярку (ПГ, I, 44, 1387); они тамъ ездили и границу зарубали (КЗ, 635, 1495); ѳедко ... по тымъ старымъ границамъ промежы нихъ новые рубежы зарубати велелъ (Там жа, 676, 1497); кнжата ѡлговичи... лесы зар8бали, хотѧчи абы ѡное поганство здрадою з багн8 выг8били (Стрыйк., 486).

**Зарубежский** *прым. Заграніччы, замежны.* ѧ естъ вольнаѧ жонъка зар8бежскаѧ з лукъ ѡдного боѧрина (КВЗС, 39б, 1538); тыи люди зар8бежскии пришли и ѧ доведалъсѧ што дочъка моѧ в нихъ (Там жа, 90б, 1539).

**Зарубежье** *наз. Заграніца.* отецъ же нашъ его милость дозволилъ предкомъ его, первымъ владыкамъ, звати люди зъ зарубежья и садити ихъ по его землямъ звѣчнымъ церковнымъ (КЗ, 529, 1494).

**Зарубити** *дзеясл.* 1. *Пакласці пачатак чаму-н., заснаваць.* тотъ городъ кажетъ зарубити, и тыхъ даней не отмовляетъ вдѣлити тобѣ брату своему (АЗР, I, 211, 1500); взялъ дей на насъ не малую суму пѣнязей, какъ замокъ Свислочь зарубилъ (КСД, 1229, 1518); ѡн тые городы зароубил и почал на них кнжити (Крас., 67); ѡнъ собравшысѧ з людми своими и пошолъ ко Друцку и землю Друцкую посѣлъ и городъ Друческъ зарубилъ и назвалъсѧ великим кнзем Друцким (Рач., 299); tretyj brat ieho Giedrus, sarubił horod y nazowet ieho imenem swoim Giedroyty (Бых., 487).

2. *Адзначыць; зрабіць зарубкі на чым-н.* А тому селу велели есьмо и рубеж зарубити от реки от Березвячи по реке ко Прудыщчины вверх (ПГ, I, 44, 1387); отъ межы Горбоневское копец закопали и границы слушное у дереви зарубили (АВК, XXXVI, 333, 1582); отъ межы подданых пани Каленицкое, так же копец закопат и границу зарубит казали (Там жа).

**Зарубывати** *дзеясл., шматкр. ад* зарубити. посылали отъ себе тое границы промежы нихъ зарубывати Зброшка Якубовича а Миколая Толочковича (КЗ, 635, 1495).

**Зарука, зарока** *наз. Заклад, гарантыя; грашовае падмацаванне згоды.* даломъ ... подъ зарукою на княжати его милость педма копами, а на врядъ Туровскій двѣма копами грошей (АСД, I, 4, 1497); слугамъ старостинымъ, ѣздячи по лѣсомъ, зарукъ не заручати (АЮЗР, I, 27, 1500); черезъ зар8к8 гаи пустошить, р8баеть (КСД, 460, 1517); по томъ панъ Сопотько неоднокроть ми докучалъ, абыхъ тую зароку зложилъ (АВК,

XVII, 98, 1540); если бы не забил толко ранил албо збил тогды с права за слушным доводом такжэ заруки нам гсдру мает платити (Ст. 1566, 14б); обецую тую заставу свою сознать на враде кгродском Меньском, под тоюжъ зарукою и всими обовясками (АВК, XXXVI, 123, 1582); тыхъ бунтовниковъ своихъ ... подъ зарукою на насъ господара ... поставили (АСД, II, 18, 1601); в зар8ки и вины правные попал (ККСС, 19, 1615); закладаемъ на себе заруки копъ четириста грошей (Там жа, 44, 1630); абы передъ нами врадомъ на пришлыхъ першихъ рокахъ, подъ зарукою, водлугъ важности речи положили (АВК, IX, 47, 1671).

**Зарукавье** *наз.* **1.** *Упрыгожанне на рукаве.* побрала ... зарукавье адамашъковые подшытые белъками (АВК, XXVI, 455, 1586).

**2.** *Бранзалет; упрыгожанне.* мужеве з жонами додали манели и на8шницъ, перстни и зар8кавꙗ (Біблія, 154—155); зарукавья дробного паръ двѣ коштовало золотыхъ пятдесятъ (АСД, I, 252, 1616).

**3.** *Частка даспеха.* панцеровъ пять старыхъ порваныхъ, прильбицъ старыхъ осмъ, зарукавья и наколенковъ четверо (АВК, XXII, 156, 1555—1566); зброй три бѣлые бляховые ... зъ наколѣнками и зъ рукавицами, зарукавьемъ панцеровымъ (АВК, VIII, 484, 1599); рышътунъку жолънеръского: зброй чотыры, шышаковъ чотыры, зарукавъе чворо (ИЮМ, XXVI, 125, 1641).

**Заруменилый** *дзеепрым. Зарумянены.* надешъ цнот8 и в церкви, на рат8ш8, на ринък8, за м8ромъ стоꙗч8ю, порохомъ ωпал8ю зар8менил8ю (Зб. 259, 545).

**Зарумянитися** *дзеясл. зв. Атрымаць чырванаватае адценне; пакрыцца румянцам.* море се з крови его жолнѣров зар8мꙗнѣло, а сам так 8шол, сына ωдног тр8бача в шаты свои 8брал (Бельск., 342б).

**Зарутъ** *наз. Абвінавачванне, упіканне, прэтэнзія, дакор.* зар8т геретицки: не может чл҃къ выконат приказанꙗ панского (Зб. 261, 201); Діавωлскій зар8тъ ч҃з. Діаволи мл҃твою розгонѧютъсѧ (Мак., 391); умоцованый стороны одпорное ... слушными документами не пробовалъ, альбовемъ жадного права прызнаного не продуковалъ, только таковые документа, которыми жаденъ таковыхъ зарутовъ николи не доводилъ (АВК, I, 134, 1677); тотъ же патронъ ихъ милостей пана Цитринского и паней малжонки его зарутъ чинитъ (АВК, XV, 520, 1686).

**Заруцати** *дзеясл. Тое, што і* заручати *ў* 1 *знач.* Его млсти п. Сидоровичу, абы не вписовалъ се противко места и баницыи не заруцалъ въ справе его млсти п. столника (ИЮМ, X, 129, 1695).

**Заруценье** *наз. Тое, што і* заручеенье. свещеникъ Заблудовское церкви ... менечы о заруцене пактъ межъ народомъ кгрецкимъ ... просечы несуженя ... на показане менованыхъ пактъ подавшы (АВК, I, 94, 1666).

**Заручаный** *дзеепрым. ад* заручати *ў* 2 *знач.* на поли мужъ знашолъ девиц8 заручаную иному (Скар. ДЗ, 43б).

**Заручати** *дзеясл.* **1.** *Гарантаваць, ручацца за што-н.* о томъ до него имъ листъ свой его милость далъ, подъ тою жъ своею виною ему заручаючы (КЗ, 601, 1495); слугамъ старостинымъ ѣздячи по лѣсомъ, зарукъ не заручати (АЮЗР, I, 27, 1500); мы имъ зар8чали з вижомъ наместника ωболецкого абы ωни тое нивы не пахали и не сеꙗли (КВЗС, 140, 1540); зар8чает б҃а чл҃ком зар8чает чл҃ка б҃8 (Каз. Кір., 181б—182); кгды челядникъ мой зъ вижомъ подкавши на дорозе, тежъ петьма копами заручалъ, абы жита того не віозлъ и усправедливилъ се, тогды онъ и на тую вину не дбалъ (АВК, XVIII, 260, 1622). *Парайн.* заруцати.

**2.** *Заручаць.* Заручалъ мужъ девиц8 (Скар. ДЗ, 43б); Напервей коли ее заручалъ, тогды на заручинахъ далъ есми бочку меду кислого (АВК, XVII, 241, 1540). *Парайн.* заручовати

**Зарученый, зарученный** *дзеепрым. ад* заручити *ў* 2 *знач.* девица зар8чена мужу (Скар. ЛК, 63); ꙗк Панна облюбенцеви зар8ченаѧ, вси добра свои, и все вѣно, з великой млсти приноситъ и даетъ в р8ки м8жа своего (Мак., 300); посланъ былъ ωт б҃га з неба тоже секретар царꙗ нбсного што и захарий, гавриилъ арханкгелъ ко дв҃ѣ зар8ченно мужеви которому имꙗ было иωсифъ (Пралог, 543б).

**Зарученье** *наз. Зарука.* я дей за онымъ зарученьемъ его, другой духовницы не писалъ (АЗР, III, 48, 1553). *Парайн.* заруценье.

**Заручины, заручыны** *наз. Заручыны, абрад аб'яўлення каго-н. жаніхом і нявестай.* Напервей коли ее заручалъ, тогды на заручинахъ далъ есми бочку меду кислого (АВК, XVII, 241, 1540); в тым часѣ в клейнотах ωт него, за оупоминокъ, собѣ зоставленных, велце сѧ кохаетъ, ωных миле цел8етъ и ωблапѧетъ: пок8л, по тыхъ дочасных зароучинахъ, до ωного вѣк8истого, весел ѧ прійдетъ (Карп., 16); заручины, шлюбъ отправованъ былъ звычаемъ господарей христіянскихъ (АЗР, IV, 290, 1608); тое веселе зар8чыны 8передило (Зб. 259, 204б); ωбр8чаю: зар8чины чиню, панн8 зар8ч8ю (Бяр., 193); Пред Малженствомъ бываютъ зар8чины, то есть ωбѣтница (Зб. вып., 78).

**Заручити, заручыти** *дзеясл.* **1.** *Гарантаваць, паручыцца за што-н.* кому хто заручитъ колько копъ на насъ, а та бы зарука даведена была на кого справнымъ доводомъ, ино то есть въ нашой воли (АЗР, II, 65, 1509); в томъ промежи собою на замокъ гдр҃ски под десетьма р8бли гроше зар8чыли (КВЗС, 4, 1543); онъ ... абы есте ему тую аренду, водлугъ листовъ нших ему даных поступили, заручил (АВК, XXXIX, 153—154, 1579).

**2.** *Абручыць, справіць абрад заручын.* за своего брата за

менъшого ... дочъку заручили были есмо (КЗ, 352, 1484); жона его одна остала съ тою дочкою, которую жъ за него заручыли (КЗ, 801, 1500); жона его Марья, водлѣ змовы мужа своего, дочку свою, которая по немъ остала, за того дворенина нашего Михайла Воловича заручила (РПП, 181, 1547); заручыл ее за Этэреуса (Атыла, 212); кн҃зь ... рачил заручити панн8 Крыстин8 у его мл: книза богдана Соломерецкого старосты Крычевского (Барк., 156б); Чл҃вкъ котори заручил жен8, а не понял еи, нехай идет и воротится до дому своего (Біблія, 223); сам ... с паном Стефаном Станкевичомъ, у которого дочку панну Ганну Станкевичовну заручыл был, от того непрыятеля москвитина ... в Лидзкий повет здорове свое уносил (АВК, XXXIV, 304, 1661); Коли кто едн8 зар8читъ, др8гой взати не может (Зб. вып., 82).

**Заручитися** *дзеясл., зв. ад* заручити *ў 2 знач.* Мария мешковала зар8чившися, водл8гъ звычаю на то час б8д8чого (Зб. 82, 175).

**Заручный** ◆ Листъ заручный *гл.* листъ.

**Заручовати** *дзеясл. Тое, што і* заручати *ў 2 знач.* ωбр8чаю: Зар8чины чиню, панн8 зар8ч8ю (Бяр., 193).

**Заручоный** *дзеепрым. ад* заручити *ў 2 знач.* зар8чоной бо бывши матце его иосифа (Цяп., 2б); если на полю нашол мужъ дѣвку, котора зар8чона есть, а 8фативши лежал бы з нею, ωнъ сам 8мрет (Біблія, 226). ◇ Заручоный листъ *гл.* листъ.

**Заручье** *наз. Тэрыторыя за ручаём.* дали ем8 ωтмен8 кгр8нтом г҃дрьским врочыщом на зар8чъи прылеглым (ККСС, 53, 1615).

**Заручыны** *гл.* заручины

**Заручыти** *гл.* заручити

**Зарушовати** *дзеясл. Разбураць, парушаць.* вси межи, границы и копцы у целости межи собою держатъ, которыхъ есмо зарушовать не могли (АВК, XXI, 82, 1555).

**Зарыть** *дзеясл. Засыпаць.* наняли трохъ поденщыковъ тое камене на млынъ отвезть, а яму землею тою жъ зарыть (ИЮМ, VII, 99, 1690).

**Зарычати** *гл.* заричати

**Заря, зара, зора, зоря** *наз.* **1.** *Яркая афарбоўка гарызонта пры заходзе і ўсходзе сонца.* радуися свѣтлое сл҃нце даміане. бж҃ествеными зарами озаряя всего мира (Чэцця, 69б); была ест надъ храмомъ ... зоря огненая (Скар. ЛК, 24); зар8 бж҃ственное красоты его, на горѣ фаворской, ωбачили (Карп., 19б); Видимо... пресвѣтл8ю зар8, миле и весело всходяч8ю (Каліст, II, 207б); стефанъ зас иг8менъ выгнанъ былъ з монастыра печерского ωбачивши з монастыра зорю дивн8ю светл8ю (Пралог, 652б); Заря: зоря, свѣтлость (Бяр., 49).

**2.** *Час перад усходам або захадам сонца, калі гарызонт набывае яркую афарбоўку.* мало пред оусходом зари троянове ... зброю брали (Троя, 65); ижъ дей вчорашнего дня въ суботу порану на заре пасли есьмо животину на сеножати (АВК, XVII, 174, 1540); поедьмо завтра по зоры (Трыст., 13); п8сти мене бо 8же всходит заря (Біблія, 72); п8сти мене, бо 8же всходит зоря (Бельск., 23б); Сл8жб8 Бж҃8ю можетъ Іерей зачати въ той часъ, коли всходитъ заря (Зб. вып., 29б—30).

**Зарядити** *дзеясл. Дагаварыцца, дамовіцца аб чым-н.* слуга мо передъ тымъ дворяниномъ ваше милости зарядилъ ему подъ тисячьма копами гроше (КСД, 674, 1511); потомъ хто бы межи сими о той речы опять ущали тягати и зарядили промежи себе, тые дадуть князю великому пятдесятъ рублевъ (АЮЗР, I, 15, 1444).

**Зарядъ, зарадъ** *наз.* **1.** *Дагавор, умова.* ωнъ и въ тотъ зарядъ, пятьсотъ копъ гроше, господар8 его милости впадеть (КСД, 594, 1509); пани Точиньская въ томъ на него довод8 не вчинила, ижъ бы ωнъ, черезъ зарядъ, сено бралъ (Там жа, 745, 1511); я на томъ и зарад далъ и закъконк8 есмо положили (КВЗС, 50б, 1538).

**2.**//*перан. Запас якіх-н. пачуццяў.* што ся тычетъ ябедниковъ, которые ходѣчи по мѣсту людей соромотятъ, и боемъ клеплютъ, и заряживаютъ заряды великіе (АЗР, I, 362, 1505).

**Заряживати** *дзеясл.* **1.** *Зараджаць, абуджаць якія-н. пачуцці.* Заряживаютъ заряды великіе (АЗР, I, 362, 1505).

**2.** *Абяцаць што-н. выплаціць; браць на сябе абавязак.* я до него посылала, заряживаючи на господаря короля его милости пять сотъ копъ гроше (КСД, 593, 1509).

**Засада** *наз. Скрытае месца, якое выкарыстоўваецца для нечаканага нападу на каго-н.; засада.* встал авимелех и все войско з нимъ з мѣстца засады (Біблія, 127); 8же на нег Свѣтополкъ также был направил забоцов з хитрои засады (Стрыйк., 454); Если хто з ненависти чл҃вка попхнетъ або на негω кинетъ з засады, або б8д8чи ем8 непріятелем р8кою оударитъ, а онъ оумретъ, который оударилъ виненъ б8детъ м8жебойства (Хран., 150б).//*перан. Перашкода.* Его дш҃а якъ пташокъ ωт тенетъ таемныхъ, ловцовъ оушла, порвала сѣти засадъ земных (Лям., 9).

**Засадзка** *гл.* засадка

**Засадити** *дзеясл.* **1.** *Замацаваць, умацаваць.* ωстрокготы и част товарышов своих на правом рогу поставил, Валямира короля над ними преложыл, лѣвыи рогъ засадилъ кгепидами и ωстатком товарышовъ своихъ (Атыла, 196); онъ ... ни чымъ инъшымъ се не боронить, одно тымъ тестаменътомъ и на немъ весь фонъдаментъ обороны своей стороны ... засадили (АВК, XX, 65, 1591); засадивши дѣла в церкви мурованой на нижнем замк8 в моцных шанцах розбивал м8р вишнего замк8 (Стрыйк., 554б).

**2.** *Заснаваць, пакласці пачатак.* Поневажъ ... на тыхъ мѣстцахъ столицу панованья своего засадилъ (Гарм., 187);

там^s се першій, на бȣдоване того, ω котором мовлю, мѣста, кгрȣнт^s засадилъ (Карп., 33).

**3.** *Сабраць, склікаць.* судья, подсудокъ и писаръ ... Июня первого дня суды земъские есться засадили и роки першие почали ся справовати на завтрей (АВК, XXII, 148, 1555—1566); тыхъ людей стороннихъ вышей писаныхъ на судъ засадившы, межы собою опытъ о той шкоде чынили (АВК, XVIII, 123—124, 1594); волни будȣть панове их засадивши при собе шлꙗхъту люде^s добрых, справедливость с такового чинити (Ст. 1588, 78).

**4.** *Прызначыць на пасаду, заняць чыё-н. месца.* ꙗ де^s въ томъ тебе самъ не сȣдилъ, але есми засадилъ свое местъце людьми добрыми (КСД, 662, 1511); до звернениꙗ тог мает злетити и засадити местцо его чл҃вкомъ добрим (Ст. 1566, 45); приꙗмус крол засадил его мѣстце парыжом, геленȣсом, триоилом и енеем (Бельск., 85б).

**5.** *Зрабіць засаду, пункт для назірання.* засадили сынове изра^sлевы засадку ωколо мѣста гаваωна (Біблія, 135б); дали имъ мѣстце до оутеканьѧ, абы на готовȣю засадкȣ впали, которȣю оу мѣста были засадили (Хран., 190б).

**6.** *Скрытна размясціцца дзе-н., наладжваючы засаду.* дрȣги^s раз израилтꙗне поткалисꙗ з ними, засадивши люд перед мѣстом на ино^s сторонѣ мѣста на засадцѣ (Бельск., 76); барзо ωздобный палацъ збȣдовавши, и дом коштовный в^s немъ зготовавши, там^s с҃на засадилъ (Варл., 20).

**7.** *Накіраваць, сканцэнтраваць.* панъ Дмитрей ... казалъ ворота великіе зачинить и засадилъ дей ручницы на насъ (АВК, XVIII, 428, 1561).//*перан.* вси мысли свои есте на зволокахъ засадили (АЗР, IV, 466, 1615).

**8.** *Прадаць.* Продати на волоце будованье и домовъство подданому вольно передъ урадомъ пры войте и лавъникохъ, а тымъ, хто купить, засадивъшы волоку свою ... можеть у месте або на пустой волоце сести (КПД, 577, 1557).

**Засадитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Засесці, схавацца ў патаемным месцы, заняць пазіцыю для абароны або нападу.* засадилисꙗ на него на верхȣ горъ (Біблія, 126б); засадилисꙗ тые три мȣжеве перед мостом, биючисꙗ перед мостом з неприꙗтелем (Бельск., 152б).

**2.** *Размясціцца.* ωто людъ вышол зъ египту, котори^s ωкрилъ верхъ земли, засадившисꙗ противко мнѣ (Біблія, 201).

**3.** *Пакваліцца на чыё-н. жыццё.* если хто маючи в ненависти ближнего своего, засадилсꙗ на горло его и ȣбил (Біблія, 222).

**4.** *Пераканацца.* Иншій зась засадившисѧ на ласцѣ, за имѧ Б҃жее тѣла свои на оурȣган^sе и мȣки выдаютъ (Мак., 182); ты ведлȣгъ того побожного и мȣдрого кролѧ постȣпилесь, и ꙗкъ на доброй надѣи засадившисѧ, принѧлес мене, котораѧ, ꙗк^s розȣмѣю, намнѣй тебе не ωшȣкаетъ (Варл., 46, 1637).

**Засадка, засадзка, засацка, засудка** *наз.* **1.** *Спосаб нечаканага нападу з укрыцця.* Кгедройть умысльне ... хотечи того Волинского на смерть забити, засадку учинилъ на улицы (АВК, XX, 158, 1598); ȣчините засудку за мѣстомъ, а не ωтходѣте далей (Біблія, 242); ȣчинили на них засадку з рȣчницами (Хр. польск., 24б); тотъ дей Гайдуковичъ, засадку чынечы за колодами, на улицы, потаемъне крылъ се (АВК, XVIII, 221, 1608); засадки на дорогахъ чинятъ (АВК, I, 349, 1696).

**2.** *Скрытае месца, якое выкарыстоўваецца для нечаканага нападу на каго-н.* князь Янъ ... з засадки зрадливе, неведоме, с тылу прыпадшы, его дей Волинского безъбронъного окрутне мечомъ тялъ (АВК, XX, 158, 1598); ωныи которые были на засадцѣ кинȣлисе до мѣста (Бельск., 76); зъ тыхъ засадзокъ своихъ ... ударыли (АСД, I, 249, 1616); пошли на мѣстце засадки (Хран., 165); ȣхищреніе: Засадка (Бяр., 184); за жалобою небощика ... менечи о подстрѣленье зъ засацки ... тотъ кгрунтъ ... присудилъ (АВК, XV, 371, 1677); зъ засацки жалуючого ... за лобъ порванье (АВК, XII, 488, 1684).

**Засажати** *дзеясл.* **1.** *Назначаць на пасаду.* они на врядехъ ... таковые местъца засажали особами на то годными (КПД, 263, 1554); домовлялъ се, абы комисаръ зъ другоей стороны умоцованый, его милости пана старостинъ меновалъ и оные засажалъ зъ умоцованымъ его милости пана старостинъ тежъ се свѣтчилъ (АВК, VI, 207, 1600).

**2.** *Асноўваць, грунтаваць.* естъ и тепер подобныхъ немало, котории толко на роскошахъ телесныхъ щастꙗ свое засажают (Зб. 259, 287б).

**3.** *Замацоўваць.* люди брыдечысе ихъ панованьемъ, и звирхностю, и не господарами, але тыранами ωные называючы на самом только статȣте, и праве ωписаномъ все беспеченство, и доброе речы посполитое засажали (Ст. 1588, прадм. Сапегі).

**4.** *Засноўваць.* на слабых филѧрехъ, единовластіе папежов римских той дѣеписъ засажаетъ (Апакр., 109); въ Мозыри жъ господаръ судъ засажаеть (КПД, 893, 1566).

**5.**//*перан.* *Закідваць.* небесны^s корол ... сѣт свою спасителнȣю на звѣра диког то ест грѣшницъ засажает (Зб. 259, 52).

**Засаженый, засажоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* засадити *ў 2 знач.* кондиціи дȣхωвных римскихъ соуть засажены (Апакр., 192б); самое наветъ наше на сем свѣтѣ мешкане, далеко болшъ на працахъ и клопотахъ, естъ засажено, нѣжли на покою и радости (Каліст, I, 14б); волости великіе здавна засажены (АЗР, V, 36, 1637). тые дѣеписовы слова на фȣндаментѣ

**2.** *Ад* засадити *ў 3 знач.* поступили в поветехъ то ест где колвекъ врꙗды судовые засажоны ... зъеждчатисѧ (Ст. 1566, 5); доводечи свѣдецтвомъ за печатьми людей добрыхъ, которые дей были на тую справу засажоны, на писмѣ покладалъ (АВК, II, 217, 1580); маеть панъ воевода ... кого его волѧ бȣдеть, засадившы и черезъ тыхъ ωсобъ засажоныхъ жалобнику справедливости з ȣрꙗдомъ своимъ ȣчинити (Ст. 1588, 180); передъ

нами врадниками ... на месцу судевскомъ засажонымъ ... Янъ Карчанъ ... и малжонка ... покладали листъ (АВК, XX, 164, 1601); засаженые на судъ не справедливые и не присяглые судьеве (АЗР, V, 75, 1645).

3. *Ад* засадити *ў 4 знач.* в тых двȣхъ днех с початъкȣ роковъ, поки третего дн҃ꙗ местъце неприбылого врꙗдника засажоно будеть (Ст. 1588, 127).

4. *Насаджаны (моцна, шчыльна) на што-н.* зброѧ в них лȣки стрелы костѧми засажоные (Царств., 80).

5. *Падкладзены тайком, неўзаметку.* поставил ѡлтар; и ѡпȣстил его вколо водою, абы хто не реклъ, иж бы там в долѣ ꙗкиˢ ѡгон был засажен (Бельск., 121).

**Засаженье, засажэнье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* засадити *ў 2 знач.* Мы, бурмистрове ... обмышливаючи о засаженью, ведле привилею его корол. милости, новое лавицы (ИЮМ, IX, 349, 1639).

2. *Дзеянне па дзеясл.* засадити *ў 3 знач.* поступили в поветехъ то ест где колвекъ врꙗды судовые засажоны и где потом через насъ гсдра засажэнъе врꙗдов судовых зъ ихъ прозбы и дозволенꙗ доˢдеть ... зъеждчатисѧ (Ст. 1566, 5).

3. *Дзеянне па дзеясл.* засадити *ў 4 знач.* потверженье его королевское милости пану Кгванину даные першому прывилью нашому местскому отъ короля ... Жикгимонта Августа ... на засажене места (АВК, I, 160, 1584); для лѣпшихъ слободъ и спѣшного засаженья людьми того мѣста Ломазского и запоможенья ихъ, били они намъ чоломъ (АВК, IV, 248, 1697).

4. *Зняволенне.* подстаростий ему жъ досыть удѣлалъ за ... засажене до везеня за то, яко он меновалъ, ижъ до нас з жалобою своею на него ехати хотелъ (Пін., 96, 1551).

**Засаживати, засажывати** *дзеясл.* 1. *Прызначаць на пасаду.* ѡбецуем тот врꙗд годнымъ и досвꙗтчоным людемъ ... давати и тоеж местъцо засаживати (Ст. 1566, 19б); ѡбецȣемъ тотъ врꙗдъ гетманьство великое ... родичомъ ... давати, и тое местъце засаживати (Ст. 1588, 47); и статечне се в томъ врꙗде на потребахъ нашихъ и земъских, маеть заховати подлугъ цноты и повинъности на хорȣжых належачое не засажываючи местъца своего инъшымъ (Ст. 1588, 49); его королевская милость надъ право также комисаровъ своихъ ставить и оныхъ засаживать (АВК, VI, 208, 1600).

2. *Засноўваць, устанаўліваць законны парадак.* Надъ то, што есьмо еще засаживаючи знову мѣсто нашо Заблудовское, такъ есмо постановили и на листѣ на датѣ нашой имъ даной то описали (АВК, XI, 37, 1563).

**Засажоный** *гл.* засаженый

**Засажывати** *гл.* засаживати

**Засажэнье** *гл.* засаженье

**Засацка** *гл.* засадка

**Засведетельствовати** *гл.* засвидетельствовати



**Засведителствовати** *гл.* засвидетельствовати

**Засвежа** *прысл. Зараз, толькі што.* которого бою ... засвежа огледавши, до книг сознал (АВК, XXXIX, 230, 1579); посвѣдчаетъ шкриптъ синодалный до книгъ трибȣналныхъ вел кз лит, засвѣжа ѡтданый (Апакр., 76б); мы, судъ, для взятя певънейшого о винъномъ засвежа ведомости, на инъквизицыю зъ урадомъ замъковымъ съ посродку себе ... лавниковъ, назъначаемъ (ИЮМ, VIII, 524, 1636).

**Засветитися** *дзеясл. Пачаць свяціцца.* справѣдливые засветѧтсѧ ꙗкъ солнъце вˢ королевъстве ѡтца ихъ (Цяп., 18); бȣдȣщаѧ онаѧ ст҃ых тѣлˢ, засвѣтиласѧ ꙗсностˢ (Карп., 1б); ꙗкъ ѡгонь троха засвѣтитсѧ (Кін., 48б — 49); вшелꙗкиˢ человѣкъ живȣчыˢ ... ꙗко ѡгон троха засветитсꙗ (Зб. 752, 590); члвкъ ... ꙗк ѡгонь троха засвѣтитсѧ (Зб. 82, 125б).

**Засветла** *прысл. Завідна, засветла.* оустанет дȣшогȣбъ оубьет оубогого и жадника а оуночи бȣдет ꙗко тат (Зб. 262, 22б).

**Засвечати** *дзеясл. Запальваць.* розмаитыи ст҃ слȣги в церкви божеи, сȣть аколитове ꙗко ѡни которіи лꙗмпы засвѣчали (Выкл., 53б).

**Засвидетельствовати, засведетельствовати, засведителствовати** *дзеясл. Засведчыць, пацвердзіць правільнасць чаго-н.* Да прорѣку пред ними словѣса сиѧ. и засвидетельствȣю на нихъ небомъ и землею (Скар. ДЗ, 60б); рече моисей кˢ гсду не возмогȣть людие взыити на гору Синай, ты ȣбо засвидетелˢствовалъ (Скар. КВ, 37); ѡни ... завергоша заповеди его и сведениѧ его еже засведетелˢствовалˢ съ ѡтци ихъ (Скар. ЧЦ, 220б); Свѣдителствȣю: Свѣдчȣ, вызнаваю, послȣшествȣю, ул҃д. засвѣдителствȣю, протестȣюсѧ. ѡсвѣдчаюсѧ (Бяр., 144).

**Засвистати** *дзеясл. Засвістаць.* Каждыˢ которыˢ пойдет през него, здȣмѣетсе и засвищет и речет: длꙗ чого так ȣчинил гсдь (Біблія, 418—419).

**Засводка** *наз.* [?] Подоски чотыри, засводки чотыри, золотый одинъ и асмак. пять (ИЮМ, II, 122, 1684).

**Засе** *гл.* зася

**Засеваный** *дзеепрым.* ад засевати *ў 1 знач.* около засеван(ь)я пашъни урадъ маеть пильность чынити, абы вси засеваны (КПД, 556, 1557); привели есте на сее мѣстце велми злое, которое засевано быт не може (Біблія, 198).

**Засеванье** *наз. Дзеянне па дзеясл. засевати ў 1 знач.* около засѣванья пашни урядъ маетъ пильность чинити (АЗР, III, 77, 1557); о засеванью и ужатью и о даванью въ отсопъ (КПД, 541, 1557).

**Засевати, засевать** *дзеясл.* 1. *Засяваць, займаць пасевамі які-н. участак зямлі.* тое жыто роздаваючи на весну людемъ въ отсыпъ, увъ осени за кождую копу бочку дворную жыта брати, а тымъ житомъ засѣвати (АЗР, II, 195, 1529); Копот ... збоже дей всякое ку пожытку своему на том островку засе-

вал (АВК, XXXII, 95, 1596); шесть лѣтъ засѣват будеш поле твое (Біблія, 173); орачъ оретъ, пашетѕ, и робитъ, пилне, потомъ засѣваетъ (Мак., 246); на ролли моеѕ кождомȣ сѣсти допустил есми а ѧ ѡдно тое што збываю, засевал (Зб. 752, 581б); Полѧ засѣвать не бȣдешъ, и винницы ѡбирать, и што сама землѧ зродитъ жать не бȣдешъ (Хран., 125); овса купили гребень засевать полчвертника (ИЮМ, III, 164, 1685).

2.//*перан. Распаўсюджваць (асвету, ідэі і інш.); рабіць што-н. даступным многім.* если же мы вамѕ дх҃овне семена наȣкъ и бг҃омыслностій орȣчы, полючы, и поливаючы землю срдцъ ваших, по силѣ засѣваемѕ (Паўуст., 10б); Гсдь слово свое вѕ срдцахъ людскихѕ засѣваетъ (Мак., 302).

**Засеваючий** *дзеепрым. ад* засевати *ў 2 знач.* засѣваючим дѣлателем цр҃ковным дх҃овнаѧ, и вѕ гȣмна дш҃ъ людских вкладаючим збожа и овоцы дх҃овныи, за праци и трȣды свои, земных и тѣлȣ нȣжных потреб, жати не могȣтѕ (Мак., 7).

**Засевокъ** *наз. Невялікая паласа пасеву.* таковому домовъству и засевокъ не маетъ быти бранъ ажъ до Светого Яна (КПД, 577, 1557); засѣвокъ свой въ полю каждому такому подданному ку пожитку своему вольно взяти будетъ (АВК, XIV, 184, 1567); двор з будованьемъ дворъца, гумъна и засевкоми жыта на поли с полями, пущою и лесами (АВК, XXXII, 182, 1596); то есть самый дворъ Селецкий з будованемъ дворнымъ и гуменъ-нымъ, опалымъ, з засевкомъ жытнымъ ... подали и уступили (ИЮМ, XXIII, 459, 1642); Подданый убогій ... не вернется до того часу, тратить засевокъ (АВК, I, 205, 1676).

**Засевъ** *наз. Пасеў, засеянае поле.* што ся дотычетъ засеви моее, штомъ я засеялъ на кгрунте того именьечка моего ...: тогды и тая засевъ маетъ быти з ними наполъ розделена и в лыко отмерена (АВК, XXII, 322, 1570); пани воеводичая Берестейская, водлугъ тогожъ тестаменту кгрунту голого, безъ засѣву всякого ... до владзы и посесіи тымъ же законникомъ ... подала и поступила (АВК, VIII, 118, 1635).

**Засегати** *дзеясл. Даходзіць, дасягаць; здабываць.* абы под час трвогъ и наезъдовъ неприятельскихъ ку обороне места было кому ставати и снаднейшого пожывеня од мещанъ в вале знайдуючых збегълые могли засегати (АВК, XXXIV, 57, 1655).

**Засегненье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* засегати. отъ его милости пана Паца панъ Янъ Шпакъ озвавшисе, узыченья часу на засегненье пленипотента, потребовалъ (АВК, XV, 48, 1653); мы товариство, того дня спомененого становиска, зъ села Волчасы, тыхъ слугъ своихъ послали были для засегненя корму для коний (ИЮМ, XVII, 196, 1663).

**Засегнути** *гл.* засягнути

**Засегтися** *дзеясл. Знайсціся, аказацца.* я водле розказанья его королевское милости, помѣряючи зуполные волоки, засеглосе земли, въ отмѣнѣ его милости даные, которую принялъ



и напротивко тое земли далъ есми на селидбу тымъ подданымъ (АВК, XIII, 286, 1560).

**Заседание** *гл.* заседанье

**Заседаный** *дзеепрым. ад* заседати *ў 2 знач.* тымъ часомъ местъце тое в раде не маеть быти заседано (КЛС, 172, 1598).

**Заседанье, заседание** *наз.* 1. *Пасяджэнне.* Писаръ земъскии того воеводъства в которомъ сȣды таковые припадати бȣдȣть за три дни передъ часомъ заседаньѧ до тых сȣдовь на местцо назначоное приехать и до реистрȣ вси справы сторонъ вписати маеть (Трыб., 10—10б); ѡ чомъ пишеть в книгахъ третих сынодовыхъ ѡстатнего заседаниѧ (Унія, 14б); на каждомъ засѣданѕю мнѡго канѡновъ, с котѡрыхъ нѣкоторые и писмȣ ст҃омȣ и перших собѡромъ и ѡтцемъ ст҃ымъ соуть не знаемы, написано (Апакр., 44б); Зложилъ поганских мȣдрцѡвъ, книжникѡв жидѡвскихъ и фарисеѡвъ, который перших мѣстцъ вѕ засѣданю шȣкали (Каліст, II, 245); Гсдъ нш҃ъ Іс҃ Хс҃ постанови Сакрамента ѧкоже гл҃етѕ Соборъ Тридентскій, въ засѣданіи з҃ Канонѣ а҃ (Зб. вып., 1—1б).

2. *Дзеянне па дзеясл.* заседати *ў 4 знач.* маючій чл҃вкъ Гостѧ нбснаго вѕ срдци ... не повѣненъ тежъ того днѧ вѕ корчмѣ засѣдати, бо тое засѣданіе барзо гсда Бг҃а ображаетъ (Зб. вып., 23б).

**Заседати, заседать** *дзеясл.* **1.** *Засядаць, абмяркоўваць калектыўна якія-н. пытанні.* сȣдъ головныѕ трибȣналскиѕ которыѕ в томъ годȣ на справах сȣдовых заседати бȣдеть (Ст. 1588, 30); того дня копа не заседала, ани жадного рокованья не чынила (АВК, XVIII, 125, 1594); што то за никифоръ ѧко до волох розвана привелъ и с тȣрки се порозȣмевалъ на шкодȣ всего королевства и речи посполитое, с которымъ заседал (Бер. саб., 8); Пытаю чомȣ на карфагенскомъ соборѣ, на которомъ ст҃ый авгȣстинъ наперед засѣдалъ, было постановлено (Апакр., 125б); они своихъ не ведаючы, ижъ до добрыхъ рече хочȣтъ се зноситъ до чого далисѧ намовити, еднакъ не инде и на иншомъ месте, ѡдно тамъ же гдес мы заседали в дрȣгоѕ избе (Барк., 149б); приводил ме, абы з ним на судех заседал (Еўл., 46); был то ареѡпаг мѣстце сȣдов ѧко ȣ нас ест трыбȣнал ... трикрот на мѣсецъ засѣдали (Бельск., 210—210б); и на сȣдахъ криминалныхъ, где о горло комȣ идетъ жебысмо не засѣдали (Каліст, I, 45б — 46).

2. *Займаць месца, пасаду.* панове рады ѧши ... на местцах их назначоных засели и вотовали и напотом вечными часы заседат ест и повинни бȣдȣть (Прыв., 110б); некоторыи зъ бурмистровства, а некоторые зъ радецтва и зъ лавництва вырекаются и на местцах своихъ заседати не хочутъ (ИЮМ, VII, 372, 1588); врѧды наши судовые за порȣченьемъ нашимъ шафȣючи справедливостью людскою местъце нашо гсдръское заседають (Ст. 1588, 14); собрало се до ефесȣ зо всег свѣта

епкпи др8гие през послы свои, келестин папа римски[s] през послы, которог теды заседал мѣстце (Бельск., 306б — 307); собравшисѧ до Трапезы на схажк8 маемо всѣ порѧдкомъ своимъ засѣдать мѣйстца (Ст. бр., 22). ◊ На справедливости заседати — *прытрымлівацца пэўнай пазіцыі.* се такий ексцесъ сталъ ... отъ особы тое, которая сама на справедливости заседаетъ (АВК, XX, 246, 1615).

3. *Рабіць засаду, нападаць.* Если кто што держит, засѣдают на него (Кін., 52).

4. *Сядзець, адбываць пакаранне.* мы ... у вежы на дне в шести сажонъ, у таковомъ везенью заседати не хочемъ (АВК, XX, 180, 1601); повинности кождого Іерея с8ть тыи: абы ... до корчмы не ходилъ, и з[s] людми свѣцкими не засѣдалъ (Зб. вып., 57—57б).

5. *Забіраць, захопліваць.* але люди твои волости наши, села, деревни, земли и воды засѣдають и люди въ полонъ головами ведуть (АЗР, II, 97, 1511).

6. *Заставаць каго-н. за якім-н. заняткам, у якім-н. стане.* Присѣж8: пилн8ю, засѣдаю на кого на зрадѣ (Бяр., 127).

**Заседаючий, заседаючый, засядаючый** *дзеепрым.* **1.** *Ад заседати ў 1 знач.* будучи до уряду позван отъ Богъдана Боровиковича, лавника того року на справах уряду войтовства Могилевского заседаючого (АВК, XXXIX, 23, 1578); передъ нами бурмистрами, райцами, лавниками, радою места Могилевского, на справахъ мескихъ, року минулого заседаючими (ИЮМ, VIII, 210, 1593); хотѧй то еще быти маетъ, же час8 встанѧ мертвыхъ засѧд8тъ и с8дъ оучинѧть в[s] пристю Гсднемъ еднакъ и т8тъ тое бываетъ, засѣдаючем8 Дхови стом8 на столцах[s] смысл8 ихъ (Мак., 65); передъ нами ... врадъниками... для слуханья присегъ на подымное водлугъ конституцыи... засядаючыми (АВК, XX, 470, 1690).

2. *Скрыты (у засадзе).* ѡтвсюль в[s] лици естъ сходѧчеи на ней, и засѣдаючеи в ней невымовной Пенкности славы свѣтлости Хвы (Мак., 3).

**Заседелый** *дзеепрым. ад* заседети *ў 1 знач.* приказуемъ вамъ ... абы есте тыхъ людей засѣделыхъ зъ места Виленского не выводили (СДГВ, 60, 1538); маетъ ... кого самъ похочет семи человеков ѡбрати родичов або заседѣлых люде[s] того села где спор идеть (Ст. 1588, 26); Болюн и Волюл отъчычы заседелые (АВК, XXXII, 186, 1596); я ... тую свою маетность ... мне належачую, спалую, с поддаными ойчыстыми, заседелыми, в ровный делъ на ровные части з сыномъ моимъ ... дарую, записую вечными часы (ИЮМ, XXI, 296, 1641).

**Заседеный** *дзеепрым. ад* заседети *ў 1 знач.* тые именя мои ... продалъ есми з будованемъ дворъныимъ и гуменъныимъ и зо всими поддаными, в тыхъ селахъ помененыхъ мешкаючыми, отчычами и заседеными (ИЮМ, XXIII, 491, 1634).



**Заседенье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* заседети *ў 1 знач.* если бы таки[s] чоловекъ або его дети хотѧ по заседенью десети летъ ѡт того пана без ведомости пана своего. прочъ 8текли (Ст. 1588, 495). *Параўн.* засеженье.

2. *Пасяджэнне.* безъ жадныхъ запозвовъ передъ нами судомъ одъ заседенья насъ суду четвертого дня и того подданого зъ ними на име Якуба Шимановича становить (АВК, XVIII, 239, 1615).

**Заседети, заседити** *дзеясл.* **1.** *Пражыць аседла пэўны час.* Которые ... ѡселость маючи заседети шэсть летъ таковых слуг з местъ во[s]тове и врѧдники наши выдавати не мают (Ст. 1566, 36б).

2. *Адседзець у турме.* тотъ заплатившы раны або головщин8, а заседевъшы за голов8 шлѧхетъск8ю годъ и шесть недель на дне в т8ръме маеть собе винъного искати (Ст. 1588, 405).

3. *Заслужыць што-н., служачы, жывучы пэўны час.* которые будуть люди ваши отчизныи зашли до мѣста Виленьского, отъ того теперешнего валного сойму назадъ отъ трехъ лѣтъ, и засѣдѣли вжо тыи три лѣта во впокои (АЗР, III, 11, 1547); которые люди приходѧт на волю и заседивши волю втекают проч (Ст. 1566 I, 78); если бы ѡнъ заседевшы волю 8текъ за кого колвекъ ино тотъ за кого втечеть, маеть ему выдати не мне[s] ѧко ѡтчыча (Ст. 1588, 377); стороны подданства, взглядомъ давности, ижъ южъ въ месте Могилевскомъ, принявши оселость, презъ летъ сорокъ заседелъ о волность просилъ (ИЮМ, IX, 226, 1635).

**Заседлый** *прым. Аседлы.* Въ тыхъ всихъ всяхъ, новыхъ и старихъ, кмети платеть рочне паном своимъ за чиншъ рочный по золотому въ золотѣ Угерскомъ съ каждой волоки отъ нихъ засѣдлыхъ ... въ Кнышинскомъ ... повѣтѣ (АСД, I, 30, 1536).

**Засеенный** *гл.* засеяный

**Засееный** *гл.* засеяный

**Засеенье** *гл.* засеянье

**Засеети** *гл.* засеяти

**Засеженье** *наз. Тое, што і* заседенье *ў 1 знач.* На сес час за щасливым засеженем ураду кгродского Мстиславского до книг кгродских Мстиславских записати далъ (АВК, XXXIV, 291, 1663).

**Засекати** *дзеясл.* **1.** *Перагароджваць (дарогу).* сынове ізраилевы ... вер[s]хи горъ осадили и пути в[s] тесныхъ местехъ засекали (Скар. КЮ, 7).

2. *Рабіць зарубку, засечку.* гдѣ быхъ я Симонъ Харлинскій ... клейны, починеные на деревѣ, псовалъ, альбо на иншое дерево ... переносилъ и засѣкалъ ... заруки по сту копъ грошей платити маемъ (АВК, XIII, 294, 1600).

**Засекъ** *наз. Засек.* у свирне одомъкнувши взялъ жита

